Народная Воля
http://www.nv-online.info
21 МАЯ 2021 г.

СЛОВА З-ЗА КРАТАЎ

# Народам трэба быць

*Павел Севярынец несправядліва змешчаны за краты і знаходзіцца там ужо больш за 11 месяцаў. Ён даслаў ліст, у якім звяртаецца да кожнага беларуса. Гэта яго зварот перад неправедным судом.*



– Скрозь жалеза кратаў мы бачым сонца. Мы чуем, як за акном ціўкаюць птушкі. Мы ўдыхаем свежасць, ад якой круціцца галава: там воля. Хтосьці ў лістах адчайваецца. Кажа: ужо няма сіл.

Тут патрэбна разуменне. Тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі, – справа Божая. Ад пачатку і да канца. Бог абудзіў Беларусь не для таго, каб яна зноў заснула. Бог не робіць бяссэнсіцы.

Але чаму Ён дапускае, каб мы, беларусы, дагэтуль заставаліся ў стане болю і роспачы?

Прычыны адчаю і слушныя адказы – амаль заўсёды ў нас саміх. Відаць, нягледзячы на леташні прарыў, мы як народ яшчэ не да канца зрабілі працу ўнутры сябе.

Усе мы хочам змяніць Беларусь да лепшага. І пачаць давядзецца з падмуркаў. З нацыянальнай свядомасці. Уласна кажучы, з сябе.

Толькі народ, які ўсведамляе сябе адзінствам, здольны прыняць найважнейшыя рашэнні адносна свайго лёсу. Узяць на сябе адказнасць за краіну. Зацвердзіць справядлівыя законы. Абараніць незалежнасць.

Мы мусім быць у ясным розуме і цвёрдай памяці – менавіта як беларусы. Таму найпершая наша справа – ачомацца. Апрытомнець. Адказаць сабе: хто мы? Адчуць сваю лучнасць з беларускім народам – нашымі продкамі, якія жылі на гэтай зямлі ад першай дзяржавы, і нашымі нашчадкамі, якія будуць пасля. Палачане, ліцвіны, беларусы. Беларускі народ – гэта больш як 200 мільёнаў чалавек за тысячу гадоў. Вялікі еўрапейскі і хрысціянскі народ. Большасць з якога размаўляла па-беларуску і верыла ў Бога. А мы?

Такім чынам, беларус, размаўляй па-беларуску, чытай і ведай сваю гісторыю. Мы можам выдатна валодаць расійскай, англійскай, кітайскай, свабодна гаманіць з рускімі, англічанамі ды іншым светам. Але, калі мы, беларусы, не будзем у Беларусі размаўляць па-беларуску – Беларусі не стане.

Зараз людзі гатовы чуць, як ніколі. Беларусізацыя ў нашай краіне ўжо ідзе. Глыбока, павольна, але ўладна – з той сілай, з якой узыходзіць сонца.

Беларуская асвета і евангелізацыя – гэта наша поле на бліжэйшыя гады. Пад сцягам Хрыста. З гімнам «Магутны Божа». З «Пагоняй» на гербе.

Калі мы зменім сябе – Беларусь непазбежна змяніцца. Простая формула веры і мовы – Ісус Хрыстос, Які гаворыць па-беларуску. На сёння гэта наша жывая нацыянальная ідэя.

А таксама мы мусім быць мужнымі і цвёрдымі, не баяцца і не жахацца. Верыць у Бога. Маліцца. Любіць свой народ. Жыць не ў ілжы. Супрацьставіць злу дабро. На страх адказваць верай. На гвалт – законам. На бязглуздзіцу – сэрцам і розумам. На нянавісць – любоўю.

Як і ўсе тысячу гадоў беларускай гісторыі нам патрэбна вера, якая дзейнічае любоўю.

Чысціня мае быць найперш не на вуліцах, а ў сэрцах.

А побач з сумленным і чыстым народам, які верыць і размаўляе на роднай мове, любое зло рассыплецца ў прах.

Народам нельга стаць у нейкі момант. Народам трэба быць. Абараняць праўду, свабоду, справядлівасць – гэта ж як дыхаць. Перастаў дыхаць – усё.

Таму ў Беларусі і доўгія роды. Бо волю трэба выпакутаваць, каб цаніць яе. Што даецца лёгка – лёгка і губляецца.

А цяпер балюча? Значыць, жывыя. Нясцерпна? Значыць, глыбока ідзе пералом. Крыж? Значыць, неўзабаве Уваскрасенне.

ПАЛІТКУХНЯ

# Партыя Віктара Бабарыкі арыентуецца на 20 тысяч членаў

*Пра гэта распавялі ў адмысловым стрыме паплечнікі зняволенага палітыка **Максім Баграцоў** і **Іван Краўцоў**.*

Партыя «Разам», якая ствараецца паплечнікамі Віктара Бабарыкі, мае намер сабраць 20 тысяч членаў. Аб гэтым распавялі ў нядаўнім стрыме Максім Баграцоў і Іван Краўцоў.

Вось асноўныя тэзісы іх выступлення:

- Дзейнасць партыі – гэта не будаўніцтва партызанскай або канспіратыўнай арганізацыі, вельмі важна, каб усё было адкрыта.
- Мы ніколі не перадаём асабістыя дадзеныя ніякім дзяржорганам без вашай згоды. База дадзеных знаходзіцца ў бяспечным месцы. Важна разумець, што ўдзел у партыі – гэта публічная дзейнасць.
- Бліжэйшая задача – правесці ўстаноўчы з'езд у канцы мая. Мы дзейнічаем у рамках Закона аб партыях, ведаем, што да яго рыхтуюцца змены. І калі яны з'явяцца – будзем адаптавацца. На ўстаноўчы з'езд трэба сабраць 1000 чалавек. Але нават калі неабходная колькасць удзельнікаў павялічыцца, як кажуць, да 3000, не думаем, што гэта будзе для нас праблемай.
- Мы арыентуемся на 20 тысяч чалавек. Разлічваем, што да канца лета мы гэтай лічбы дасягнём.
- Зараз уся большасць сканцэнтравана на тым, як пабудаваць сістэму грамадскага ўладкавання на прынцыпах таго, як павінна жыць грамадства, а не на ўжытковых дробных праблемах.

ПЕРСОНА

## Крысціна ДРОБЫШ:

# «Акцёры ўпэўнены: сёння Стэфанія Станюта была б разам з моладдзю і з рэжысёрам Пінігіным»

*Чым займаюцца зараз нашы «Вольныя Купалаўцы»? Як іх самаадчуванне – псіхалагічнае, эмацыйнае, прафесійнае? Ці рыхтуецца новы спектакль?*

*Сёння мая суразмоўніца – яркая, таленавітая актрыса **Крысціна ДРОБЫШ**. За яе плячыма – сем гадоў службы ў Купалаўскім тэатры. І ні хвіліны сумненняў у тым, дзе яе месца ў сённяшняй Беларусі.*



**– Якія настроі зараз пераважаюць у вольных купалаўцаў? Захапленне барацьбой працягваецца ці нешта мяняецца?**

– Як сказаў мне адзін чалавек: няма трагедыі, ёсць змена правіл гульні. Яны, канешне, у нейкім плане змяніліся кардынальна, але яны павінны прывесці да тых вынікаў, на якія мы ўсе разлічваем.

**– Рэжысёр Мікалай Пінігін па зразумелых прычынах не дае зараз інтэрв'ю. Можа быць, ён нават адчувае віну за тое, што павёў вас за сабой?**

– Я, канешне, не магу адказваць за пачуцці Мікалая Мікалаевіча, але зараз у нас няма часу на рэфлексіі, мы вельмі заняты – трупа працуе. Хтосьці ў кадры, хтосьці за кадрам, мы самі сабе цяпер усё: і акцёры, і рэквізітары, і касцюмеры... Напрыклад, у новым відэа спектакля, які – увага! – мы выкладзем у YouTube праз некалькі дзён, я не занята, але ўвесь час працавала за кадрам, прасавала адзенне, гатавала каву і гарбату… Трэба будзе – і ўнітазы буду мыць.

**– А як мужчынам-акцёрам? Мне здаецца, ім зараз цяжэй.**

– Цяжка. Хтосьці гаворыць аб гэтым услых, хтосьці не. У нас зараз «беларускія горкі»: то «мы пераможым!», то «ўсё прапала!». Ад дэпрэсіі да натхнення адзін шаг – гэтыя стадыі так ці інакш мы праходзім усе. Я працавала ў Купалаўскім сем гадоў, а хтосьці ж 25...

**– Які быў самы цяжкі перыяд з тых часоў, як звольніліся? Ужо дзевяць месяцаў прайшло...**

– Я лічу дні, каб аднойчы пачаць новую гісторыю. За гэты час былі два самыя цяжкія моманты. Першы – пасля таго, як напісала заяву на звальненне, а потым прыйшла і не змагла ўвайсці ў будынак і забраць свае рэчы. Заўважу: я пісала чатыры заявы на звальненне з Купалаўскага. Адміністрацыя мянялася, і паперкі павінны былі адпавядаць прозвішчу дырэктара. А ў тэатры то адзін, то другі часовы кіраўнік пасля Паўла Паўлавіча Латушкі. Гэты момант быў самы цяжкі, бо ты не паспяваў зразумець, што вакол адбываецца. І ў краіне таксама ўсё ляцела хутчэй, чым твае думкі. Мы не паспявалі аналізаваць – ні сітуацыю ў тэатры, ні ў краіне ў цэлым. А другі момант – калі з'язджала з арэнднай кватэры, першага дома, створанага сваімі рукамі. Я рабіла там рамонт тры разы, там нарадзілася дзіця, там яно нават вырасла... Сын – яму пяць з паловай – пытаўся: чаму мы мусім з'язджаць? Патлумачыць яму было цяжка. Не сцен кватэры было шкада, не каробкі. Для сына гэта быў Дом.

**– А зараз вы з роднымі пад адным дахам? Вы ж мінчанка…**

– Не, я здымаю кватэру. Пастаралася зацікавіць сына, яму ўжо і новая кватэра падабаецца.

**– Вы не адчуваеце на сабе ціск: званкі, сачэнне? Цяпер ад сілавых органаў усяго можна чакаць.**

– Канкрэтных прыкладаў няма. Але ўсё можа здарыцца ў любы момант, з жніўня 2020 года мы зразумелі: калі ёсць чалавек, артыкул знойдзецца. Трэба будзе – прыйдуць. Ты ў нашай краіне не абаронены законам.

**– Як вы думаеце: у якім лагеры цяпер была б Стэфанія Міхайлаўна Станюта?**

– Я, канешне, яе асабіста не ведала, але старэйшыя акцёры кажуць, што ўпэўнены: яна была б побач з моладдзю і рэжысёрам Пінігіным. І Станюта, і Макарава... Але і зараз сярод нас ёсць артысты таго ж узроўню: Георгій Рафаілавіч Маляўскі, Аляксандр Станіслававіч Падабед, Алена Юр'еўна Сідарава, Наталля Рыгораўна Качаткова, Зоя Валянцінаўна Белахвосцік, Арнольд Кандрацьевіч Памазан, Віктар Сяргеевіч Манаеў – наш залаты фонд з намі.

**– А вы глядзелі «Паўлінку», якая ідзе зараз у Купалаўскім?**

– Не, і не хачу. Зірніце на мае валасы – я і так за апошнія месяцы ледзь не стала сівой у 30 гадоў. І навошта мне тая «Паўлінка»? Ну робяць людзі нешта на сцэне і хай робяць, абы не кралі. Ім гэта трэба, каб жыць. Няхай. Добра, калі гэта яшчэ каму-небудзь патрэбна. У мяне ні нянавісці, ні азлобленасці няма. Хутчэй – страшнае непаразуменне. Кожны з нас розны, і крутасць у тым, што, будучы нязгодным, у цябе хапае сіл прыняць меркаванне іншага. Добрае, кепскае – усё гэта так адносна... Старыя акцёры, якія засталіся ў Купалаўскім, яны пражылі там усё сваё жыццё, і я па-чалавечы не маю права іх асуджаць, калі хачу, каб маё жыццё таксама паважалі. Канешне, страшна, што мы вымушаны падзяліцца...

**– Як і ўсё грамадства!**

– Што некаторыя нашы калегі аказаліся на іншым баку – відавочна гэта бок зла... Але прыйдзе час, калі ўсе ўсё зразумеюць. І дзе былі нашы памылкі, спадзяюся, нам таксама хопіць сіл прызнаць. Але гэта ўжо мудрасць наступнага ўзроўню.

**– А асабіста ў вас у жыцці было шмат памылак, якія былі вамі сумленна прызнаны?**

– Ой, да чорта! Памылкі – гэта і ёсць жыццё. Справа не ў тым, каб ніколі не падаць, а ў тым, каб, упаўшы, зноў падняцца. І прызнаць памылку – гэта як падняцца, зрабіць крок наперад.

**– А вы часта крыўдзіліся на рэжысёраў? А потым вялі бясконцыя начныя ўнутраныя маналогі...**

– Крыўдзіцца не крыўдзілася. Не разумела – так. Спрачалася. Але гэта не з Мікалаем Мікалаевічам.

**– Вашым мастацкім кіраўніком у акадэміі, я чытала, быў купалавец народны артыст Мікалай Кірычэнка.**

– Ён быў наш павадыр! Распавядаў тонкасці існавання ў прафесіі, а таксама тонкасці жыццёвыя і чалавечыя. Помню, другі курс – заняткаў вельмі шмат, пекла. Ты, здаецца, не вылазіш з акадэміі суткамі, не паспяваеш нават паесці. Мікалай Міхайлавіч прыйшоў на заняткі, пабачыў, што мы стомленыя, галодныя, і пайшоў купіў нам здаравенную торбу піражкоў. І потым заўсёды насіў цукеркі і яблыкі. А Зоя Валянцінаўна Белахвосцік – яна выкладала на 1–2-м курсах – спякла аднойчы пірог. Мы з імі былі, як дома.

**– Цяжка было адразу пасля студэнцкай лавы апынуцца ў калектыве Купалаўскага?**

– Я ўсведамляла, куды іду. Канешне, увесь кантэкст адразу зразумець не магла, бо тэатр звонку і тэатр знутры – гэта розныя рэчы.

**– А што, Пінігін жорскі кіраўнік?**

– Ён прамы, кажа як ёсць. Часам з моцным словам, але, што не адняць, ён умее паставіць акцёрскую задачу так, што ты будзеш вельмі дакладна разумець, якую ролю іграеш. Гэта вельмі важна.

**– Якія ў вас былі, з вашага пункту гледжання, лепшыя ролі ў тэатры?**

– Мне здаецца, я сыграла ўсё, аб чым магла марыць маладая артыстка. Толькі прыйшла ў трупу, і ў той жа дзень было размеркаванне па «Пане Тадэвушы». Я атрымала ролю Зосі (а ў п'есе ўсяго дзве жаночыя ролі!). Памятаю, што нашы рэпетыцыі былі, як урокі гісторыі. Мікалай Мікалаевіч даваў нам такі шырокі кантэкст, столькі распавядаў – гэта наогул заўсёды адзін з плюсаў яго рэпетыцый. А потым я атрымала ролю ў спектаклі «Сымон-музыка» (яго вырашылі аднавіць праз год прастою). Ну, гэта была мегаадказнасць. Я ж тады адпрацавала толькі пару месяцаў. Ну і масоўка ў «Паўлінцы» – зразумела, гэта святое, гэта як пасвячэнне.

**– Вы адразу пасля школы паступілі ў Акадэмію мастацтваў?**

– Не, не адразу. Была страшна стомленая пасля выпускных экзаменаў, падрыхтоўчых курсаў. Плюс я яшчэ падпрацоўвала на той момант.

**– Вы працавалі школьніцай? У вас жа забяспечаная сям'я.**

– Сям'я звычайная, нармальная. Але я пачала шукаць працу яшчэ ў 14 гадоў, мне было гэта важна. Была патрэба ў працы з дзяцінства, а зараз гэта перарасло ў працагалізм. Пайшла тады па ўсіх суседніх з домам крамах: вазьміце хоць на якую работу... У 14 гадоў мяне не ўзялі. А ў 15 выпадкова патрапіла ў рэкламнае агенцтва і затрымалася там надоўга – спачатку раздавала ўлёткі, а потым дарасла да асістэнта менеджара. Працавала, нават калі стала студэнткай акадэміі. Але аднойчы заснула на занятках. Проста адключылася... І зразумела, што сумяшчаць вучобу і работу не атрымаецца.

**– Ці сустракаліся вы, маладая актрыса, з харасментам? Захад бурліць, а ў нас усё шыта-крыта. Або ў нас у тэатральным асяроддзі няма сексуальных дамаганняў?**

– У нашым тэатры харасменту не было адназначна. І наогул ніякіх дыскрымінацый па палавой прыкмеце. Яшчэ на тэатральным факультэце нас вучаць, што акцёр – істота бясполая, так што забудзься пра сваё цела. Я разумею, што тэма вострая, неадназначная, але праз 30 гадоў прад'яўляць прэтэнзіі... Аднак, калі я выкажуся па гэтым пытанні больш адкрыта, мяне парвуць. А зараз лавіць і адбіваць дзіды ў мяне няма сіл.

**Алена МАЛОЧКА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
21 МАЯ 2021 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Мы пра пандус і навес знаем больш, чым пра АЭС

Па просьбе маладых маці дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Аляксандр Данчанка кінуў кліч: зробім пандус і навес для калясак у гомельскай дзіцячай паліклініцы! На кліч адгукнуліся тры прадпрыемствы. Адбылося ўрачыстае адкрыццё «аб’ектаў надзвычайнай важнасці»: прысутнічаў сам дэпутат, пераразалася стужка, у неба ўзляцелі чыровна-зялёныя шарыкі. Побач «выпадкова» аказалася дзяржаўнае тэлебачанне, пра падзею напісала абласная газета…

Хоць чыноўнікаў багата –
Спрэс сядзяць, нібы пянькі,
На прыём да дэпутата
Напрасіліся жанкі.
– Чалавек ты наш, мясцовы,
Гэта значыць, не чужы, –
Ад жанчын пачуў ён словы, –
І таму дапамажы.
Паліклініка для дзетак
Неблагая ў нас, дарма –
Не вылечваюць нідзе так.
Толькі пандуса няма,
Каб падняць наверх каляску.
Ты парупся, дэпутат,
Так сказаць, зрабі нам ласку.
Грошай трэба там няшмат.
Для калясак нашых трэба
І якісь навес яшчэ,
Бо як дожджык льецца з неба,
Дык у іх вада цячэ.
Не марудзіў ні хвіліны
Дэпутат і даў адказ:
– Лягу я касцьмі, жанчыны,
Але пандус будзе ў вас!
Абіваючы парогі,
Каб паверылі яны,
Дэпутат падняў на ногі
Цэлы горад абласны,
І таму аж тры заводы
Выраблялі пандус той!
(Я скажу з такой нагоды:
Хоць ты падай, хоць ты стой…)
У бюджэце бедным сродкі
Адшукалі на навес,
Бо да той будоўлі ўсё-ткі
Быў вялікі інтарэс.
Ці ж для горада не свята?
Забурліла ўсё жыццё!
Думка ўзнікла ў дэпутата,
Што аб’ектаў адкрыццё
Урачыстым быць павінна,
І пра поспех той з газет
Хай празнае ўся краіна,
Можа, нават цэлы свет.
Дык і праўда кожны знае –
І стары, і малады,
Бо газета абласная
Напісала сапраўды.
Тэлебачанне таксама
Паказала рэпартаж.
Ну такой была рэклама,
Што і я зайздросціў аж.
Не пісала столькі прэса,
Як адкрылася АЭС,
Бо не жыць нам без навеса,
Вельмі трэба нам навес…

***

Людзі пандусам давольны,
І навесу кожны рад:
Гэта ўсё, на што ў нас здольны
Родны ўрад і дэпутат…

### Дзень адчыненых дзвярэй

Трэба даць камусь па карку:
Не прыдумаў ён мудрэй –
Аб’явіў у заапарку
«Дзень адчыненых дзвярэй».

### Мяшок і дзяўчына

Няўцям мне заўсёды было,
У чым жа прычына:
Мяшок, які сорак кіло,
Падняць немагчыма –
Здаецца, што ён акурат
Жалезам набіты;
Дзяўчына ж вагой пяцьдзясят –
Пушынка нібыта…

СОВЕТЫ



# Польза и вред молодой крапивы

*Почему она жжется и как ее лучше приготовить*

В мае опытные травники собирают молоденькую крапиву, зная, что за жгучим фасадом растения скрывается нежная душа. Сейчас самое время для зеленых салатов с крапивой, легких супов и ароматной весенней выпечки. Рассказываем, в чем польза и вред молодой крапивы.

### Почему крапива жжется?

Под названием «крапива» скрывается целый род растений, который включает более 50 видов. Самые распространенные из них – крапива двудомная (Urtica dioica L.), многолетнее высокое растение, и крапива жгучая (Urtica urens L.), однолетнее и невысокое. Латинское название растения происходит от слова uro, то есть «жгу» – этим крапива и известна, хотя главная особенность ее в другом – чрезвычайно насыщенном содержании полезных веществ. Этот витаминный клад крапива защищает с помощью особых полых ворсинок – стрекательных клеток, которыми покрыты стебли и листья. В каждой такой клетке-ворсинке находится гремучая смесь из муравьиной кислоты и гистаминов, а острие пропитано кремнеземом – вонзаясь в кожу, оно обламывается, и яд буквально «впрыскивается» в ранку. Появляются отек, жжение и зуд.

### Польза крапивы

Так что именно столь яростно защищает растение? В крапиве содержатся в больших количествах следующие полезные вещества:

– каротин и каротиноиды (больше, чем в моркови),
– витамины (особенно высокое содержание С, группы В и К),
– хлорофилл,
– дубильные вещества,
– флавоноиды,
– фитонциды,
– органические кислоты,
– порфирины,
– гликозиды,
– ацетилхолин.

Разнообразен и минеральный состав: железо, марганец, сера, медь, кремний, бор, никель, титан, калий, кальций и др. Неудивительно, что с таким наполнением крапива издревле считается лекарственным средством и используется в народной медицине. Она обладает общеукрепляющим, тонизирующим, противовоспалительным, бактерицидным, антисептическим, ранозаживляющим, кровоостанавливающим, мочегонным, желчегонным, отхаркивающим, легким слабительным, противосудорожным и многими другими свойствами.

В народной медицине крапиву в качестве дополнительного средства используют в виде отвара или настоя при заболеваниях желудка и почек, для лечения ран и при кровотечениях, при анемии и авитаминозах, при мышечных болях и ревматизме, для лечения кожных заболеваний и подагре.

Активно используется крапива и в косметологии. Настоем и отваром моют волосы для укрепления и лучшего роста, может помогать крапива при выпадении волос и излишней сальности. Также из молодого растения делают маски для лица, помогающие бороться с прыщами, угрями, воспалениями, выравнивающие цвет кожи и осветляющие веснушки и пигментные пятна.

### Вред крапивы

Но не всё так однозначно – такой насыщенный состав может иметь эффект «разорвавшейся витаминной бомбы» при определенных проблемах со здоровьем. Из-за высокого содержания витамина К, который активно участвует в процессе свертывания крови, при нарушениях кроветворения крапива может загущать кровь. Поэтому она противопоказана при повышенной свертываемости крови и во время приема антикоагулянтов. Нельзя ее употреблять и при кровотечениях, вызванных кистой и полипами, опухолями и прочими заболеваниями, требующими оперативного вмешательства. Осторожно стоит применять крапиву при почечнокаменной болезни и камнях в желчном пузыре, людям с варикозным расширением вен и при тромбофлебитах.

Также крапива может вызвать сильную аллергическую реакцию при индивидуальной непереносимости тех самых ядов, которые содержатся в жгучих волосках, вплоть до повышения температуры и анафилактического шока.

### Что приготовить из крапивы

Обычно рекомендуется употреблять в пищу молодую крапиву, которая уже накопила максимум полезных веществ для активного роста, но еще не успела как следует защитить себя ядовитыми ворсинками. Собирают молодую крапиву в мае – начале июня, засушивают или замораживают впрок. Из свежей зелени, ошпаренной кипятком, чтобы не «кусалась», можно готовить салаты, начинки для выпечки, добавлять крапиву можно в омлеты, запекать с ней картофель, рыбу, птицу. Желательно добавлять ее за 5–10 минут до конца приготовления, чтобы она сохранила максимум полезных веществ.

Самый популярное блюдо из молоденькой крапивы – зеленые щи, в которые можно добавить любую другую сезонную зелень: щавель, шпинат, одуванчик. Крапива отлично сочетается с картофелем, рисом. Из сушеной крапивы можно сделать порошок и добавлять его в качестве приправы в любые блюда по вкусу.

### Омлет из крапивы

***Ингредиенты:***
– 200 г крапивы,
– 1 репчатая луковица,
– 4 яйца,
– 50–70 мл молока или сливок жирностью до 10%,
– 20 г растительного масла,
– густая деревенская сметана для подачи,
– соль, свежемолотый черный перец.

***Пошаговый рецепт приготовления***

1.Ошпарить крапиву кипятком, мелко нарезать.

2.Лук нарезать полукольцами и обжарить до мягкости с растительным маслом. Добавить крапиву.

3.Залить зелень яйцами, взбитыми до однородности с молоком и солью. Обжаривать до полной готовности, поднимая время от времени край омлета.

4.Выложить на большую тарелку, нарезать на сектора и подавать со сметаной.

### Щи из крапивы

***Ингредиенты:***
– 4 яйца,
– 1 репчатая луковица среднего размера,
– 3 картофелины среднего размера,
– 3 ст.ложки топленого масла,
– 1 лист куриного (овощного) бульона или питьевой воды,
– 200 г молодой крапивы,
– ½ небольшого кочана салата айсберг,
– соль, свежемолотый черный перец – по вкусу.

***Пошаговый рецепт приготовления***

1.Сварите яйца всмятку для подачи супа: поместите их в ковшик, залейте холодной водой и доведите до кипения, варите 4 минуты, охладите под проточной водой.

2.Лук для щей мелко нарежьте. Топленое масло нагрейте в кастрюле с толстым дном. Положите лук и, помешивая, обжаривайте на слабом огне в течение 5 минут.

3.Картофель нарежьте средними кубиками. Добавьте в кастрюлю к луку. Помешивая, жарьте на слабом огне 5 минут. Затем залейте бульоном или водой, доведите до кипения, посолите и варите около 20 минут.

4.Крапиву тщательно промойте проточной водой. Грубые стебли удалите. Остальную крапиву мелко нарежьте. Положите в кастрюлю к овощам в бульоне, доведите до кипения и варите 1 минуту.

5.Щи снимите с огня и измельчите погружным блендером до получения пюре не слишком гладкой консистенции. Попробуйте и, если понадобится, посолите и поперчите по вкусу.

6.Салат айсберг вымойте и нашинкуйте. Добавьте в кастрюлю с супом. Закройте ее и оставьте на горячей выключенной плите. Через 5 минут щи из крапивы разлейте по тарелкам. В каждую добавьте сваренные ранее яйца.

### Печеный картофель с песто из крапивы

***Ингредиенты:***
– 12 средних картофелин,
– топленое масло,
– соль.
Для песто:
– 200 г молодых листочков крапивы,
– 50 г укропа,
– 1 зубчик чеснока,
– 50 г адыгейского сыра или жирного творога,
– 50 г очищенных жареных подсолнечных семечек,
– нерафинированное подсолнечное масло,
– соль, свежемолотый черный перец.

***Пошаговый рецепт приготовления***

1.Разогрейте духовку до 200°С. Вымойте картофель щеткой, разрежьте пополам или на четвертинки, положите на противень. Полейте топленым маслом, посолите и запекайте до мягкости, примерно 35 минут.

2.Для песто удалите у крапивы стебельки, сложите в стакан погружного блендера. Добавьте мелко рубленый укроп и чеснок, посолите, измельчите в пасту.

3.Понемногу подсыпайте семечки и подливайте масло, пока не получится не очень густое песто. Добавьте сыр и перец, еще раз взбейте. Полейте картофель и подавайте.

*(gastronom.ru)*

КРЫЖАВАНКА

# «Беларусы будуць жыць!»

**Па гарызанталі:** 1.«Ой, ляцелі шэры … // Высока пад хмараю. // Незалежнасць Беларусі // Застаецца мараю» (прыпеўка). 5.На брахні … не стаіць (прык.). 7.«Эх, …, выручалачка! // Ты і хлебушка, ты і салачка» (прыпеўка). 8.Тое, што і лата (разм.). 10.«А божа мой, божа мілы, // Нашто я жаніўся? // Узяла жонка ўкусіла – // … гады лячыўся» (прыпеўка). 11.У адзенні не …, у кажуху не касец (прык.). 13.Вядомасць, папулярнасць. 14.«Касіў … канюшыну» (беларуская народная песня). 15.«Цягне муж, цягне брат, // Цягне кум і цягне … – // Так і цягнем коўдру жвава: // Мы – сабе, а з нас – дзяржава» (прыпеўка). 16.«Сядзіць … на прыпечку, // Грае, рэжа ў скрыпачку» (прыпеўка). 18.Тое, што і іржышча. 20.Насякомае з вельмі вузкай таліяй. 22.«Узяўшы хустачку, … // Пайшла «мяцеліцу» скакаць» – з паэмы «Тарас на Парнасе». 24.Тое, што і кліенты. 26.Беражы гонар з маленства, калі … крывы (прык.). 27.«Усталі Колас і Купала: вясна карагодзіцца. // Верацъ … і Якуб – Беларусь адродзіцца» (прыпеўка). 28.«… – гэта матэрыяльная дапамога тым, хто не ўмее красці» (цытата невядомага аўтара). 29.«Пецъ … мы канчаем, // Заклікаем не тужыць. // Бо пакуль гармонік грае, // Беларусы будуць жыць!» (прыпеўка).



**Па вертыкалі:** 1.«Усталі Колас і Купала, // Ды ў … ўдарылі: // Дзе ж ты, тая Беларусь, // Аб якой мы марылі?» (прыпеўка). 2.Ублытаўся, як … ў павуцінне (прык.). 3.Тое, што сабрана. 4.Укрыцце для стральбы. 6.«Іграй, дудка, пайду ў …, // Люблю дзевак, каб іх пранцы» (прыпеўка). 9.«Пад дуду і пад … // Топне, праспявае. // Сцеражыцеся, ўсе людзі: // Беларус гуляе» – з верша Я.Купалы «Ігнату Буйніцкаму». 12.Суп без бульбы, што … без музыкі (прык.). 15.Танцавальны нумар з паступовым распрананнем. 17.«Прапісала мне дыету // Родная мая кабета: // Суп нішчымны, …, // Качарга і мацюкі» (прыпеўка). 19.Паляванне на звяроў, а часам і на людзей. 21.Загляне … і ў наша ваконца (прык.). 22.«Ой, ляцелі белы гусі // Доўгі … мералі, // А як селі ў Беларусі, // З гора сталі шэрымі» (прыпеўка). 23.Манера, стыль (перан.). 25.Моцнае абурэнне.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Гусі. 5.Свет. 7.Бульбачка. 8.Лаціна. 10.Тры. 11.Плывец. 13.Імя. 14.Ясь. 15.Сват. 16.Клоп. 18.Ржышча. 20.Аса. 22.Венера. 24.Кліентура. 26.Твар. 27.Янка. 28.Зарплата. 29.Прыпеўкі.

**Па вертыкалі:** 1.Гуслі. 2.Муха. 3.Збор. 4.Акоп. 6.Танцы. 9.Цымбалы. 12.Вяселле. 15.Стрыптыз. 17.Праснакі. 19.Аблава. 21.Сонца. 22.Вёрсты. 23.Жанр. 25.Гнеў.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

УСМІХНІЦЕСЯ...

Мазгі – гэта справа такая: звычайна іх не відаць, але, калі іх не хапае, – заўважна!



– Галіна Пятроўна, а вы 10 кілаграмаў паднімеце?
– Лёгка!
– А 20?
– Без праблем!
– А 100?
– А як я, па-вашаму, раніцай паднімаюся?



Калі яна сказала яму «Ты – самы лепшы», ён зразумеў, што дзесьці праходзілі спаборніцтвы.



Анжэла заўсёды глядзела толькі наперад і ніколі не азіралася назад. Нават калі паркавалася.



– Мужчына, купіце кветачкі сваёй жанчыне, а то я ўжо замерзла тут стаяць.
– А колькі вы за іх хочаце?
– 25 рублёў.
– Вам трэба цяплей апранацца.



– Мужчына, вы так на мяне глядзіце, быццам вам няма дзе пераначаваць.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ





Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).